**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 9 (777) 26 лютага 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




Масленіца-2015 у Глыбокім
*22.02.2015 г.*

Глыбоцкая згушчонка – лепшая ў свеце!



Усё Глыбокае зычыла поспеху гэтай адважнай дзяўчыне. Калі ў нас ёсць такія дзяўчаты і жанчыны – мы пераможам ўсе нягоды!

*Фота Ул. Скрабатуна.*

## “Вольнае Глыбокае” прыпыняе прыём абвестак, якія датычаць продажу свіней і прадуктаў іх убою з прыватных падворкаў грамадзян

Такая просьба вынікае з ліста, якая была дасланая на адрас нашай газеты Дзяржаўнай лячэбна-прафілактычнай установай “Глыбоцкая раённая ветэрынарная станцыя. Ветстанцыя спасылаецца на рашэнне Глыбоцкага райвыканкама ад 23.09. 2013 г №1238, кіруючыся пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29.08.2013 г №758.

Рэха афрыканскай чумы свіней у нашым краі! Што ж, трэба выконваць пастанову Савета Міністраў. Апошнія абвесткі на дадзеную тэму знікнуць са старонак “ВГ” цягам 1-2 нумароў, бо некаторыя паступілі і аплачаныя загадзя па нумару 166.

***“ВГ”***

### Пастаўскі раён

# Расце клубок праблем

■ Кастусь Александровіч

**Пачатак гэтага года паказаў, што ў краіне ўслед за Расіяй наступае зацяжны эканамічны крызіс, а жыццёвых цяжкасцей у людзей толькі прыбаўляецца.** Вось і ў Пастаўскім раёне ў студзені прыйшлося паставіць на ўлік адразу 198 беспрацоўных, а напрыканцы мінулага года на ўліку было толькі 143. Між тым гэты рэгіён мае буйны эканамічны патэнцыял, летась атрымаў прадукцыі ў суме 1 трлн. 282 млрд. рублёў, а па эфектыўнасці гаспадарання стаў другім на Віцебшчыне, саступіўшы толькі прадпрыемствам абласнога цэнтра. На экспарт мясцовыя вытворцы адгрузілі і прадалі за год рознай прадукцыі амаль на 40 млн. долараў. Аднак сёлета сітуацыя стала імклівa пагаршацца, першы месяц 2015 года амаль усе прадпрыемствы краю завяршылі падзеннем вытворчасці на 3,5 %. Горш таго, і 45 першых прадпрымальнікаў аб'явілі аб заканчэнні сваёй дзейнасці, не бачачы для сябе перспектыў. Мясцовыя рынкі могуць да пачатку вясны пакінуць і іншыя дробныя гандляры з-за адсутнасці сертыфікатаў і дрэннага пакупніцкага попыту. Са скрыпам і са спазненнем выплацілі ў раёне снежаньскую зарплату работнікам, а далейшыя перспектывы змрочныя. Практычна няма заказаў у Варапаеўскіх ДАКа і завода ЖБВ, радыёзавода "Беліт", са стратамі працуе льнозавод. З-за рэзкага аслаблення расійскага рубля пачалі расці страты Пастаўскага малочнага завода, які адгружае ў Расію шмат сыроў. Галоўны экспарцёр прыватны мэблевы цэнтр таксама апынуўся ў падобнай сітуацыі і вымушаны скарачаць вытворчасць і людзей, адпраўляць працаўнікоў у неаплачваемыя водпускі.

### Аршанскі раён

# Нясоладка буйному рэгіёну

■ Станіслаў Раманчук.

**Па сваім патэнцыяле буйны Аршанскі раён не мае сабе роўных на Віцебшчыне, аднак становішча спраў нават тут выклікае сур'ёзную заклапочанасць у кіраўніцтва вобласці.**

У шэрагу мясцовых прадпрыемстваў і гаспадарак краю ўзніклі сёлета эканамічныя цяжкасці, пайшлі затрымкі выплат зарплат і зменшыліся паступленні ў бюджэт. Раней аршанцам не было роўных у сельскай гаспадарцы, а цяпер у АПК і кваліфікаваных кадраў не хапае, і ўпалі паказчыкі дзейнасці сельгаспрадпрыемстваў пасля іх узбуйнення. На гіганце льнокамбінаце не могуць давесці да канца мадэрнізацыю і канкураваць з замежнымі вытворцамі. З-за адсутнасці сучаснага менеджмента, састарэўшых упраўленчых схем, адсутнасці належнай лагістыкі продаж са стратамі сталі працаваць мясцовыя мясакансервавы і малочны камбінаты. Люстэркам існуючых праблем стала нават новенькая дзяржаўная фабрыка "Сладкая страна", якую па дзяржпраграме імпартазамяшчэння адкрылі толькі летась напрыканцы лета. Розліваючы з таннай айчыннай сыравіны выпускаць тутрозныясмачныябісквітныя рулеты і пацясніць замежных канкурэнтаў. На практыцы атрымалася, што ў прадпрыемства няма спецыялістаў патрэбнага ўзроўню і на дапамогу прыйшлося прыцягваць тэхнолагаў віцебскага кандытарскага камбіната "Віцьба". На жаль, і па цане рулеты аршанцаў даражэйшыя за аналагічныя расійскіх вытворцаў. Нават унутры Беларусі прадукцыя "Сладкай страны" цяпер не карыстаецца попытам, сваіх рынкаў збыту яна не змагла заваяваць. Фабрыка працуе на склад, і як выхад - для выратавання яе могуць цяпер аб'яднаць з больш паспяховымі кандытарамі з абласнога цэнтра.

### Полацкі раён

# Пікет забаранілі

■ Чэслаў Якубовіч.

**У беларускай сталіцы і ў шэрагу іншых гарадоў краіны збіраліся ў суботу 21 лютага правесці пікеты, на якіх актывісты Свабоднага прафсаюза планавалі сабраць подпісы суайчыннікаў з заклікам да кіраўніка дзяржавы прыпыніць дзеянне свайго Дэкрэта № 5.**

Як вядома, гэты нарматыўны акт пачаў дзейнічаць з гэтага года і для ўсіх форм гаспадарання, па меркаванні экспертаў, пагоршыў правы наёмных работнікаў. Адпаведную заяўку аб правядзенні падобнага пікета падалі арганізатары і ў Полацкі райвыканкам, а мерапрыемства думалі правесці на працягу адной гадзіны пасля абеду на пляцоўцы каля кінатэатра "Радзіма". Дарэчы, летась у старажытным горадзе не знайшлося сродкаў прадоўжыць рамонт кінатэатра, як і абнавіць састарэлае абсталяванне для сцэны гарадскога Дома культуры. Арганізатары пікета ў Полацку на сябе ўсклалі абавязкі па забеспячэнні грамадскага парадку і бяспекі яго ўдзельнікаў. Вось гэтай акалічнасці аказалася дастаткова ўладам раёна, каб забараніць правядзенне пікета, бо інакш прафсаюзным актывістам патрабавалася б заключыць дагаворы і заплаціць міліцыі за дзяжурства, райбальніцы – за выдзяленне, магчыма, машыны "хуткай дапамогі". Аднак аднымі забаронамі сыты не будзеш, падстаў для незадавальнення жыццём і ў палачан прыбаўляецца. У пачатку сакавіка закіпяць і тут кірмашовыя страсці, бо не змогуць гандляваць на рынках прадпрымальнікі таварамі з Расіі і іншых краін, дзе няма патрабуемых сертыфікатаў.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 26.02.15 | | | | Пятніца 27.02.15 | | | | Субота 28.02.15 | | | | Нядзеля 01.03.15 | | | | Пан. 02.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +2 | +4 | +4 | +2 | +2 | +2 | +2 | +2 | +2 | +5 | +4 | +1 | +1 | +3 | +2 | 0 | +1 | +3 |
| Ціск | 751 | 752 | 752 | 751 | 749 | 747 | 746 | 746 | 746 | 747 | 748 | 749 | 750 | 750 | 750 | 748 | 747 | 746 | 746 |
| Вільготнасць | 91 | 95 | 90 | 89 | 90 | 95 | 89 | 90 | 91 | 95 | 87 | 88 | 90 | 95 | 81 | 85 | 88 | 94 | 79 |
| Вецер м/сек | 2 У | 4 У | 2 У | 4 У | 3 У | 4 У | 2 У | 1 Пд-У | 1 Пд | 2 Пд | 2 Пд-У | 1 З | 1 З | 1 Пн-У | 0 ШТЛ | 3 Пд-У | 4 Пд-У | 6 Пд-У | 5 Пд |

# Аб самым надзённым

## У Расіі масавыя звальненні, вымушаныя прастоі, неўзабаве павысяць пенсійны ўзрост, на чарзе беларусы?




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Рэальнасць такая, што "саюзная" нам Расія таксама стала перажываць вельмі моцны эканамічны і сацыяльны крызіс. Паўсюдна ў Расіі цяпер растуць шалёна цэны, да лета харчаванне падаражэе яшчэ на чвэрць, але – гэта не самае страшнае.**

Як і чакалася, нядаўнія працяглыя начныя перамовы ў беларускай сталіцы ў фармаце "нармандскай чацвёркі" не паклалі канец крывапралітнай вайне на Данбасе. Для ўдзельнікаў гэтага вострага канфлікту, які спраакаваны з Усходу і ўсяляк падтрымліваецца Масквой, чарговыя дамоўленасці на паперы, нават не падпісаныя лідарамі чатырох краін, сталі, хутчэй усяго, толькі кароткай перадышкай, а моцны агонь пад Дэбальцавым і Марыупалем адразу пасля сустрэчы ў Мінску яшчэ больш узмацніўся. Як ні горка, але наперадзе па-ранейшаму ў паветры лунае перспектыва яшчэ больш маштабнай вайны з цяжкімі наступствамі.

А пакуль для нашых бліжэйшых суседзяў і, не забывайцеся, асноўных гандлёвых партнёраў – рускіх і ўкраінцаў ужо наступаюць няпростыя перыяды развіцця іх дзяржаў. З-за вайны эканамічны крызіс, разрушэнні і самае страшнае, ужо тысячы загінуўшых людзей сталі горкай рэальнасцю для Украіны. Магчыма, гэтага і дабіваліся яе нядобразычліўцы-ястрабы з высокіх маскоўскіх кабінетаў. Але ж і на саміх расійскіх прасторах сітуацыя таксама не лепшая, хоць пра ўнутраныя праблемы ні словам не абмовяцца агідныя і хлуслівыя расійскія дзяржаўныя тэлеканалы і газеты, большасць з якіх працуюць па рэцэптах агалцелай гебельсаўскай прапаганды.

Рэальнасць такая, што "саюзная" нам Расія таксама стала перажываць вельмі моцны эканамічны і сацыяльны крызіс. Напрыканцы студзеня расійскі ўрад прыняў антыкрызісны план дзейнасці на 2015 год. Аднак нават на яго не знайшлося 25 млрд. рублёў і прыйшлося ўрэзаць сродкі для змяншэння наступстваў абвалу для людзей да 170 мільярдаў. Такіх аб'ёмаў грошай з дзяржбюджэту яўна не хапае, бо апошніх паўгода ў большасці расійскіх рэгіёнаў абстаноўка вельмі цяжкая і ўсё болей пагаршаецца. Паўсюдна ў Расіі цяпер растуць шалёна цэны, да лета харчаванне падаражэе яшчэ на чвэрць, але – гэта не самае страшнае.

Адзін з карэспандэнтаў рускай службы ВВС пабываў у двух кутках гэтай краіны - Цвярской вобласці і на Урале. У першым з іх ужо спыніліся назаўсёды з-за нерэнтабельнасці калісьці буйнейшы ў СССР тэкстыльны камбінат і гігант "Хімвалакно". Такі ж лёс можа напаткаць у Цвяры і прастойваючы там буйны вагонабудаўнічы завод. На ўральскіх нават ваенных заводах сітуацыя не лепшая, там збіраюцца звальняць па 4,5 і нават 10 тысяч чалавек. Чытаў я гэтыя радкі, а сам міжволі думаў, што ў такім выпадку сёлета, не дай Бог, нешта падобнае можа паўтарыцца і на МТЗ, МАЗе, на заводах-гігантах у Гомелі, Бабруйску, Жодзіне.

У нас на Віцебшчыне абстаноўка таксама не з лёгкіх, гэты год будзе вельмі складаным і для жыхароў Прыдзвіння. Нездарма ж абласная газета "Витебские вести" пачала друкаваць рэгулярныя справаздачы са штотыднёвых рабочых планёрак новага главы вобласці. Пачытайце іх і стане зразумела, наколькі ўсё сур'ёзна складваецца ў эканоміцы. Да веснавой сяўбы ўжо засталіся лічаныя тыдні, а палова рухавікоў тэхнікі няспраўныя, яна захоўваецца на машынных дварах з грубымі парушэннямі, многія гаспадаркі не ведаюць, дзе будуць браць сродкі на паліва, угнаенні, за што плаціць людзям заробкі. У прамысловасці вобласці таксама праблемы, ідзе гаворка аб тым, каб не даць закрыцца заводам і фабрыкам, не пакінуць людзей без працы.

А яшчэ больш страшны крызіс чакае будаўнічую галіну, новых аб'ектаў узводзіць ёй сёлета вызначана крайне мала, у сельскай мясцовасці будоўлі практычна замарожаны, бо грошай у дзяржбюджэце Беларусі не хапае і невыпадкова ўведзены па краіне механізм строгай эканоміі расходаў, яны скарачаюцца. Як будзем жыць далей, калі многія суб'екты гаспадарання становяцца неплацежаздольнымі, а прадпрыемствы АПК практычна перасталі плаціць падаткі, узносы ў пенсійны фонд, разлічвацца за спажытую электраэнергію.

На гэтым фоне для беларусаў падаражэлі напрыканцы зімы камунальныя паслугі, выраслі цэны на многія тавары, а спецыялісты прагназуюць сёлета падзенне айчыннага экспарту на 3-4 % і ўвогуле рэцэсію, якой у нас не было з 1995 года. Праблема Беларусі ў яе вельмі моцнай прывязцы да Расіі, якая ўжо страціла ад зніжэння цэн на нафту і заходніх санкцый мінімум 200 млрд. долараў. Нафта ў свеце моцна патаннела, а мы вымушаны купляць яе на 100 USD даражэй з-за ўведзеных Крамлём падатковых манёўраў. У сусветнай эканоміцы цяпер яўны ўздым, а на постсавецкай прасторы наадварот. Услед за нашымі бліжэйшымі суседзямі і ў беларусаў істотна ўпалі даходы, пенсіі ў доларавым вымярэнні.

Цяпер з расійскіх прастораў назад на радзіму вымушаны будуць вярнуцца сотні тысяч беларускіх гастарбайтараў з-за змяншэння заробкаў у Расіі і зніжэння попыту там на рабочую сілу. Зразумела, што не здарылася б летась крымскай авантуры, а потым распальвання напружання на Данбасе, многіх гэтых штучных праблем сёлета не было б. Іншая справа, што яшчэ многія ачмураныя расійскай прапагандай і нашы суайчыннікі па-ранейшаму не могуць не нацешыцца на куміра – невысокага піцерскага палкоўніка, які ўявіў сябе месіяй і абаронцам "русского мира". У такой сітуацыі толькі сапраўдная шматвектарная эканамічная палітыка, паступовае зніжэнне ад празмернай залежнасці ад рэсурсаў Расіі выратуюць Беларусь, аднак для гэтага патрэбны час і адпаведная воля народа.

## Дзень за днём

**Статус пасрэдніка па ўкраінскім крызісе ўмацаваў пазіцыі Беларусі на міжнароднай арэне. Улады Беларусі папрасілі Крэмль "падставіць плячо" сёлета на 2,5 млрд. USD. Рост цэн у студзені склаў 2,4 %, а беспрацоўных стала болей за месяц на 6,5 тысяч. З трох гадоў да 12 месяцаў можа скараціцца для беларусаў час знаходжання на ўліку па беспрацоўі. Павялічыліся істотна штрафы за незаконныя валютныя аперацыі. Колькасць карыстальнікаў Інтэрнэту ў Беларусі перавысіла 5 млн. чалавек. З наступнага навучальнага года ў школы вернецца "Сусветная мастацкая культура".**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Міністры замежных спраў ЕС дамовіліся яшчэ пашырыць санкцыі супраць Расіі, калі яна не зменіць сваю агрэсіўную палітыку ў Данбасе, то апынецца ў поўнай ізаляцыі.

**Францыя.** Прэзідэнт Франсуа Аланд адзначыў, што новыя дамоўленасці ў Мінску аб міру на Украіне даюць вялікую надзею, але трэба яшчэ зрабіць вялікую работу.

**ЗША.** Краіна абагнала Расію і выйшла на 1-е месца ў свеце па здабычы нафты ў аб'ёме 11,8 мільёна барэлей/суткі, у бліжэйшы час іх адрыў ад рускіх будзе яшчэ болей расці.

**Кіпр.** Урад краіны абверг шэраг паведамленняў расійскай прэсы аб тым, што нібыта кіпрскі прэзідэнт меў намеры прадаставіць Расіі ў арэнду дзве ваенныя базы.

**Англія.** Глава МЗС краіны Ф. Хэммонд параўнаў Пуціна з "еўрапейскім тыранам (Гітлерам) сярэдзіны XX стагоддзя", бо так не паводзяць сябе нармальныя лідары.

**Украіна.** МВФ і дзяржавы вялікай G7 могуць павялічыць памер фінансавай дапамогі краіне да 40 мільярдаў долараў, поспех рынкавых рэформ найбольш небяспечны для рэжыму Пуціна.

**Расія.** Генеральны пракурор РФ Ю. Чайка адмовіў Украіне па яе запыту арыштаваць і выдаць беглага прэзідэнта Украіны В. Януковіча і некалькіх яго паплечнікаў.

**Фінляндыя.** Глава ўрада А. Стабб папярэдзіў Крэмль, што калі вырашэнне канфлікту па Данбасу пасля перамоў не будзе знойдзена, то ЕС замарозіць адносіны з РФ надоўга.

**Грэцыя.** Як і чакалася, урад Германіі адхіліў патрабаванні грэкаў аб вяртанні ім грашовых рэпарацый за шкоду, прычыненую падчас Другой Сусветнай вайны.

**Расія.** Міністр фінансаў РФ А. Сілуанаў аб'явіў аб скарачэнні расходаў дзяржбюджэту яшчэ на 600 мільярдаў рублёў з-за падзення даходаў, не будзе і індэксацыі зарплат, сацвыплат.

**Англія.** Глава "Раснафты" І. Сечын на Міжнародным нафтавым тыдні рэзка абвінаваціў АПЕК і Саудаўскую Аравію ў намеранай дэстабілізацыі сусветнага рынку нафты.

**Швейцарыя.** Спецыялісты адшукалі на 768 рахунках рускіх, прыбліжаных да Крамля, у банках групы HSBC у Жэневе каля 1,8 мільярда долараў, 40 % іх рахункаў былі ананімныя.

**Расія.** У кампаніі Trafigura папрасіла крэдыт "Раснафта" каб заплаціць даўгі, сёлета ёй трэба выплаціць 19,5 мільярда долараў, займы І. Сечына за граніцай дасягнулі 54 мільярда долараў.

**Індыя.** Кампанія Марка Цукерберга Facebook правяла ў краіну бясплатны Інтэрнэт і падключыла да сваіх базавых анлайн-сэрвісаў мільёны беднякоў з шасці штатаў.

**Аўстрыя.** Арганізатары конкурсу песні "Еўрабачанне" запрасілі Аўстралію выступіць у фінале шоу 23 мая з нагоды 60-годдзя праекта, сёлета ў ім выступяць 40 краін Еўропы.

# У Беларусі двойчы падвысяць зарплаты бюджэтнікам



■БЕЛТА

**Тарыфная стаўка першага разраду павышаецца ў Беларусі з лютага і з сакавіка 2015 года. Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў №109 ад 18 лютага 2015 года.**

Для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, якія атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўнаваны па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый, тарыфная стаўка першага разраду ўстаноўлена з 1 лютага ў памеры 277.000 рублёў, з 1 сакавіка - у памеры 292 тыс. Цяпер яна складае 275 тыс. рублёў.

Рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, кіраўнікам бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, якія атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўнаваны па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый, неабходна забяспечыць неразлік заработнай платы работнікаў у адпаведнасці з устаноўленай пастановай №109 тарыфнай стаўкай першага разраду і каэфіцыентамі Адзінай тарыфнай сеткі работнікаў Рэспублікі Беларусь з улікам карэкціруючых каэфіцыентаў.

Павышэнне тарыфнай стаўкі дазволіць павялічыць заработную плату работнікам бюджэтнай сферы. Аднachасова павялічацца памеры дзяржаўных стыпендый навучэнцам, даплат маладым спецыялістам, за вучоныя ступені, а таксама іншых выплат, якія залежаць ад памеру тарыфнай стаўкі першага разраду.

Тарыфная стаўка першага разраду ў 2014 годзе павышалася двойчы: з 1 красавіка - да Br262 тыс. і з 1 мая - Br275 тыс. У выніку чаго павялічылася на 5,8%. У мінулым годзе таксама прымаліся меры па павышэнні ўзроўню аплаты працы найбольш запатрабаваным катэгорыям работнікаў бюджэтных арганізацый. Так, з 1 верасня 2014 г. уступілі ў сілу пастановы Савета Міністраў №818 (па сферы адукацыі) і № 819 (па сферы аховы здароўя). Імі прадугледжваліся меры па павышэнні зарплаты педагагічным работнікам устаноў адукацыі (у першую чаргу выхавальнікам і настаўнікам) шляхам павелічэння памеру надбавак за кваліфікацыйныя катэгорыі педагагічным работнікам; урачам, сярэднім медыцынскім работнікам і санітаркам бюджэтных арганізацый з захаваннем прыярытэту ў аплаце працы работнікаў участковай службы і службы хуткай медыцынскай дапамогі.

Як паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны, у выніку прынятых мер намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата бюджэтнікаў у 2014 годзе ў параўнанні з 2013-м павялічылася на 20,6% да Br4 млн 555 тыс. (у снежні мінулага года сярэдняя зарплата склала Br5 млн 457 тыс., або $ 496 у эквіваленце). У прыватнасці, сярэднямесячная заработная плата ў ахове здароўя за мінулы год узрасла на 22,8% да Br4 млн 722,3 тыс.; у адукацыі - на 19,5% да Br4 млн 121,3 тыс. Рэальная заработная плата работнікаў бюджэтнай сферы ў 2014 годзе да ўзроўню 2013 павялічылася на 2,1%.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Калі неўзабаве Беларусь не зможа атрымаць крэдыт, як заявіла ў газеце "Беларусы і рынак" І. Крыловіч, то будзе зноў дэвальвацыя, альбо абмежаванні на валютным рынку.

**Гомель.** Экс-прэм'ер-міністр М. Мясніковіч пацвердзіў, што ВА "Гомсельмаш" апынулася на мяжы выжывання, яго даўгі 5,1 трлн. рублёў, летась аб'ёмы вытворчасці былі 4,4 трлн.

**Салігорск.** Калектыву "Беларуськалія" ўдалося летась павялічыць экспартныя пастаўкі калійных угнаенняў на 66 %, адгрузіць 9,5 млн. тон калію ў 90 краін свету.

**Мінск.** Па праграме асваення новых рынкаў завод "Амкадор-Белвар" адправіў першую партыю электрычных мясарубак у Латвію, на іх актыўны попыт у Расіі, ва Украіне.

**Нясвіж.** Буйнейшы ў РБ агракамбінат "Сноў" правёў дадатковыя перамовы з Кітаем аб пастаўках мясапрадуктаў, іх выраб давялі да 40 тон у суткі, 35 % вырабаў ідзе на экспарт.

**Мінск.** Еўрарадыё высветліла ў баевіка-беларуса з так званай арміі "ЛНР", як праз Расію набіраюць наёмнікаў на вайну з Украінай, радавы вaюе там за 360 $ у месяц.

**Барысаў.** Мінская абласная пракуратура накіравала ў суд справу 20-гадовага малодшага сержанта, які зламаў нос свайму падначаленаму і можа сесці ў турму ад 2 да 10 гадоў.

**Мінск.** Помнік за рабочым сталом класіку беларускай літаратуры Васілю Быкаву, які памёр яшчэ ў 2003 годзе, нарэшце вырашылі ўстанавіць , магчыма, на плошчы Бядулі.

**Салігорск.** Пасля арышту 4 гады назад Мінскі абласны суд разглядзеў справу былога першага намесніка міністра лясной гаспадаркі Беларусі Ф. Лісіцы за злоўжыванні ўладай.

**Мазыр.** З-за з'яўлення трэшчын у сценах прыпынілі працу 2-павярховага дзіцячага садзіка ў вёсцы Слабада 1979 года пабудовы, 23 дзіцяці са школы бацькі забралі дамоў.

**Мінск.** У цэнтры сталіцы ў пешаходным пераходзе каля ГУМа ў дзень прыезду высокіх замежных дэлегацый абваліласа раніцай абшыўка, людзі, на шчасце, не пацярпелі.

**Пружаны.** Асуджанага на хімію пенсіянера Ю. Рубцова за майку з надпісам "Лукашенко, уходи" выклікалі на допыт у Следчы камітэт, ён абазваў камандзіра атрада "негодяем".

**Мінск.** Па загадзе Міністэрства інфармацыі РБ вядомае прыватнае выдавецтва "ЛогвінаЎ" не пусцілі на міжнародную кніжную выставу-кірмаш, але яно паедзе ў Вільню і Лейпцыг.

**Стаўбцы.** Абураныя жыхары райцэнтра сабралі подпісы супраць планаванай рэканструкцыі цэнтра горада ў 80 км ад Мінска і зносу шэрагу індывідуальных дамоў.

**Мінск.** Канадскі нападаючы ХК "Юнацтва" Даніэль Корса заявіў, што Беларусь сур'ёзна ў лепшы бок адрозніваецца ад Расіі, гэта розныя краіны, тут жывуць значна лепшыя людзі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** У сувязі з падатковымі манеўрамі РФ і ростам цаны нафты ААТ "Нафтан" мінімум яшчэ паўгода не зможа павысіць зарплату 12 тысячам сваіх працаўнікоў.

**Віцебск.** У абласным цэнтры да 7 тыс. рублёў за паездку падаражэў праезд у маршрутных таксі, глава вобласці М. Шарстнёў рэзка раскрытыкаваў дзейнасць ЖКГ усяго рэгіёна.

**Полацк.** На чарговым аўкцыёне фонду "Віцебскаблмаёмасць" за 1,4 млрд. рублёў прадалі айчыннаму інвестару комплекс з 5 будынкаў і збудаванняў у гістарычным цэнтры горада.

**Орша.** У горадзе пачалі ўзводзіць 90-кватэрны дом, у ім 45 кватэр будуць арэнднымі, у астатнія ў канцы года заселяцца работнікі мясцовага льнокамбіната.

**Глыбокае.** Штогадовая калегія МУС Беларусі прызнала мясцовы райаддзел міліцыі лепшым у краіне па выніках аператыўна-службовай дзейнасці ў 2014 годзе.

**Талачын.** З-за рэканструкцыі цэнтральнай плошчы да абласных "Дажынак" неабходна перанесці помнік Леніна ў суседні сквер, так паступілі з ідалам і ў Гарадку, Глыбокім.

**Паставы.** Адразу тры віды сыроў мясцовага малочнага завода "Альпійскі", "Плаўлены" і "Трыумф" сталі пераможцамі конкурсу "Лепшыя тавары Беларусі" за 2014 год.

**Чашнікі.** Па рашэнні суда судовыя выканаўцы арыштавалі ўсе рахункі КУСХП "Чашнікі", бо гаспадарка не рaзлічылася поўнасцю з людзьмі за працу яшчэ летась.

**Ушачы.** Вясной на радзіме паэта Рыгора Барадуліна ў райцэнтры плануецца ўстанавіць помнік, пачаўся збор добраахвотных сродкаў у Беларусі на выраб манумента.

**Мёры.** Акрамя дарослых і 13 старшакласнікаў школ раёна скончылі спецыяльныя платныя курсы, атрымалі пасведчанні трактарыстаў-машыністаў колавых трактароў катэгорыі "А".

**Полацк.** Пасажыраў парадавала, што адразу на 30 % патаннелі білеты на міжнародныя цягнікі ў Расію, да Масквы адсюль даехаць у плацкартным вагоне каштуе 460 тыс. рублёў.

**Докшыцы.** Работнікі Бярэзінскага біясфернага запаведніка пачалі збор 3,5 тон шышак сасны звычайнай і ёлкі еўрапейскай ва ўрочышчы "Барсукі" для наступнай сушкі.

**Верхнядзвінск.** Мясцовы лясгас акрамя статку з 50 зуброў з 2008 года закупіў яшчэ каля 600 аленяў і пасля адаптацыі ў вальерах выпусціў іх у лясныя масівы краю.

**Полацк.** Вечарам паблізу горада лоб у лоб сутыкнуліся дзве іншамаркі, ад удару зляцеў у кювет і перакуліўся Volkswagen Passat, у ДТЗ загінуў 32-гадовы пасажыр.

**Віцебск.** У новым чэмпіянаце Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе ФК "Віцебск" возьме старт матчамі на выездзе ў Мікашэвічах і Бабруйску, затым дома гульня з "Нафтанам".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Глыбокае стане сталіцай рэгіёну?

**На сайце Віцебскага аблвыканкама ёсць паведамленне аб тым, што праводзіцца грамадскае абмеркаванне горадабудаўнічага праекта “Схема комплекснай тэрытарыяльнай арганізацыі Віцебскай вобласці”, якое пройдзе з 24 лютага па 20 сакавіка 2015 года.**



### Не трэба спаць у шапку!

З графічнай экспазіцыяй і тэкставымі матэрыяламі па праекце ў перыяд з 24 лютага па 10 сакавіка можна будзе азнаёміцца ў будынку арганізатара – камітэта па архітэктуры і будаўніцтву Віцебскага аблвыканкама, а таксама да 20 сакавіка на афіцыйным сайце аблвыканкама ***www.vitebsk-region.gov.by***.

Мэтай праекта з’яўляецца ўдасканаленне тэрытарыяльнай арганізацыі Віцебскай вобласці для забеспячэння ўстойлівага і канкурэнтаздольнага развіцця яе тэрыторый і населеных пунктаў.

Заўвагі і прапановы па праекце можна запісваць у адмысловы журнал пры экспазіцыі, а таксама ў тэрмін да 20 сакавіка (улучна) накіроўваць лістом у камітэт па архітэктуры і будаўніцтву Віцебскага аблвыканкама: 210010, г.Віцебск, вул.Гогаля, 2 ці на электронны адрас ***stroitel@vitebsk.by***.

Заўвагі і прапановы ўдзельнікаў грамадскага абмеркавання будуць разгледжаны на архітэктурна-горадабудаўнічай радзе Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь.

Паводле гэтага праекта, як вынікае са схемы (што размешчаная ніжэй), Глыбокае мусіць стаць цэнтрам (сталіцай) аднаго з чатырох унутрыабласных рэгіёнаў.

Гэта пакуль праект. І нам усім, найперш нашым уладам, не трэба “спаць у шапку”! А што калі ў рэшце рэшт з’явіцца пастаўскае ці браслаўскае лобі, якое прадставіць свае важкія аргументы, і цэнтрам рэгіёну стануць Паставы альбо Браслаў. Быў жа ў нас “Цэнтр Еўропы”! Аднак Полацк аргументаваў, што гэты “Цэнтр Еўропы” яму пільней патрэбны, чым Глыбоцкаму раёну. Ён цяпер – не ў ваколіцах Івесі, а ў самым цэнтры Полацка ля гатэлю “Дзвіна”.

### Ідэя не новая!

Размовы аб неабходнасці новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Беларусі вядуцца даўно. Ды й зрэшты, калі пагледзець мапы адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Венгрыі, Чэхіі, Нідэрландаў, Румыніі і іншых краінаў, то адразу заўважым адну і тую ж акалічнасць – там няма абласцей (інакш губерняў). Тэрыторыі краінаў падзеленыя на акругі, якія па беларускіх мерках адпавядаюць плошчы 4-6 беларускім раёнам. Напрыклад, гіпатэтычна, у нашай краіне магла б быць адна з такіх акругаў як шэсць нашых бліжэйшых раёнаў: Глыбоцкі, Докшыцкі, Пастаўскі, Мёрскі, Шаркоўшчынскі і Браслаўскі. Гэтыя акругі ў еўрапейскіх краінах могуць называцца па рознаму: дзе павет, дзе гебет, дзе край, дзе графства… Яскравы прыклад – Румынія. Краіна мае плошчу 238,3 тыс.км² і падзеленая на 42 жудзецы (акругі). Беларусь мае плошчу 207, 5 тыс. км² і падзеленая на 6 абласцей (губерняў). Калі ж ужыць “румынскі” варыянт для Беларусі, то, прапарцыйна, Беларусь павінна б мець 36 рэгіёнаў (акруг). Між тым для Беларусі ўжо даўно абмяркоўваецца варыянт у 24-26 акругаў, сярод якіх, меркавана, будзе і Глыбоцкая акруга, непасрэдна Віцебская вобласць мусіць быць рэарганізаваная ў чатыры акругі: Віцебская, Аршанская, Полацкая і Глыбоцкая.

У нас, фармальна, вобласць (абласны цэнтр) чым займаецца? Збірае “паперы” з 21 раёна і накіроўвае іх у Мінск! Атрымліваецца лішняе і непатрэбнае звяно, бо адміністрацыйная акруга можа і сама наўпрост адсылаць паперы ў сталіцу. Чаму ж тады, калі ўсім усё зразумела і ёсць еўрапейскі прыклад, не зліквідавалі даўно на Беларусі вобласці?

Сотні аблвыканкамаўскіх чыноўнікаў пішуць і збіраюць паперы, атрымліваюць добры заробак, а напраўду – іхняя праца краіне не патрэбная.

Адказ просты! А куды падзець гэтых тысячы паўтары – у кожным з шасці абласных цэнтраў – чыноўнікаў? Пад дзесяць тысяч у краіне! Гэтыя людзі проста так не сыдуць! Яны ж рабілі кар’еру, лічаць сябе вельмі патрэбнымі грамадству, атрымліваюць добрыя заробкі, збіраюцца на пенсію раней на пяць гадоў (як дзяржаўныя служачыя) ды яшчэ з годным пенсійным забеспячэннем. А вы прагнеце выгнаць іх на вуліцу? Не дадуць яны ліквідаваць вобласці!

### Што прапануе новы праект?

Ён, аднак, **не** касуе вобласць (абласныя чыноўнікі могуць спаць спакойна!). Унутры вобласці ствараюцца чатыры рэгіёны. Дзіўна! Нібы Віцебская вобласць выступае ў ролі дзяржавы ў дзяржаве. Лагічна усё ж меркаваць, што такія праекты ствараны не толькі для Віцебскай вобласці, але і для ўсіх шасці абласцей Беларусі.

Тут цікавае пытанне! У кожным з рэгіянальных цэнтраў будзе створаны новы штат чыноўнікаў? І мы мусім іх карміць, г.зн. дадатковая нагрузка на бюджэт, а нашыя бабулі і дзядулі атрымаюць меншую пенсію? Хтосьці ж мусіць кіраваць з Глыбокага: Паставамі, Браславам, Докшыцамі і Шаркоўшчынай! Альбо гэта будзе толькі фармальны падзел на рэгіёны? Усё застанецца як і раней – “паперы” збірае Віцебск сваім абласным штатам чыноўнікаў? Загадка! Пра канчатковы вынік мы даведаемся не хутка, бо прапановы грамадскага абмеркавання потым будуць яшчэ разглядацца ў Мінску. А гэта – прапановы з шасці абласцей краіны.

### Ад нас забралі Мёры!

Паводле схемы ад нас забіраюць Мёрскі раён, ён будзе ўваходзіць у Полацкі рэгіён. Дзіўна! Глыбокае, Паставы, Шаркоўшчына, Докшыцы, Браслаў і Мёры заўсёды былі разам, не важна, што тут было раней: Мінская губерня, Віленскае ваяводства ІІ Рэчы Паспалітай ці Маладзечанская вобласць БССР. Мы – “заходнцы”, ментальна аднолькавыя, палачане – “усходнікі”, ментальна ад нас іншыя. А як быць з такім гістарычным памяткам як Дзісеншчына? Такая вялікая гісторыя! Дзісна ж адыходзіць да Полацка...

### Іншая класіфікацыя населеных пунктаў

Да нядаўняга часу гарады і паселішчы абласцей класіфікаваліся наступным чынам: абласны цэнтр, горад абласнога падпарадкавання (Полацк, Лепель, Орша, Наваполацк), горад раённага падпарадкавання, цэнтр сельсавета, вёска. Цяпер мы бачым такую класіфікацыю: абласны цэнтр, цэнтр унутрыабласнога рэгіёну, падцэнтр абласнога рэгіёну (у нас Паставы і Браслаў), раённы цэнтр, аграгарадок, іншы сельскі населены пункт. Ёсць і такая катэгорыя, як “тыпы гарадскіх населеных пунктаў па ролі ў сістэме расселення»: нацыянальны, рэгіянальны, мясцовы. Глыбокае – рэгіянальны, а вось Браслаў, як ні дзіўна, па статусе вышэй – нацыянальны, хоць і райцэнтр Глыбоцкага рэгіёну! Што на гэта паўплывала? Азёры? Нацыянальны парк?

### Што будзем мець у выніку?

Адказ на пытанне напісаны ў самым пачатку. *“Мэтай праекта з’яўляецца ўдасканаленне тэрытарыяльнай арганізацыі Віцебскай вобласці для забеспячэння ўстойлівага і канкурэнтаздольнага развіцця яе тэрыторый і населеных пунктаў».*

Можна так зразумець – у выніку павінна здзейсніцца тое, аб чым усе так мараць! Працоўныя месцы, годная аплата працы, будаўніцтва новага жылля, развіццё промыслаў, прадпрымальніцтва, фермерства, змяншэнне дэпапуляцыі (павелічэнне росту насельніцтва). Нашыя гарады стануць прывабнымі, усё менш людзей будзе мець жаданне з’ехаць у іншыя гарады або краіны.

Пачакаем вынікаў абмеркавання праекта. Дарэчы, незабывайма, кожны з нас можа прыняць у ім удзел, даслаўшы свае меркаванні на электронны адрас, які змешчаны вышэй.



# Абмежаванні на лоўлю рыбы

**Заканчваецца люты, апошні месяц зімы, з надыходам сакавіка для рыбаловаў-аматараў уступяць у дзеянні і першыя абмежаванні на аматарскую лоўлю рыбы, дакладней, на вылаў асобных відаў рыбы і водных жывёл.**

**Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Згодна з Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь, у мэтах захавання рыбных рэсурсаў і стварэння спрыяльных умоў для ўзнаўлення Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя можа ўсталёўваць абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства, лоўлю асобных відаў рыбы, у асобных рыбалоўных угоддзях, у вызначаныя тэрміны, а таксама на выкарыстанне асобных прылад і (або) спосабаў рыбалоўства. Лоўля ўсіх відаў рыбы ў рыбалоўных угоддзях забараняецца ў Віцебскай вобласці **з 10 красавіка па 8 чэрвеня**, у Мінскай, Магілёўскай і Гродненскай абласцях з 1 красавіка па 30 траўня, у Брэсцкай і Гомельскай абласцях з 20 сакавіка па 18 траўня, за выключэннем, аматарскага рыбалоўства, што ажыццяўляецца адной вудай з адным кручком або адным спінінгам, аснашчаным штучнай прынадай, з адным адзінарным, або падвойным, або патройным кручком у светлы час сутак з берага (без заходу ў ваду) альбо з лёду, з штучных збудаванняў.

Акрамя названых забаронаў Правілы прадугледжваюць увядзенне забароны на лоўлю асобных відаў рыбы, так па Віцебскай вобласці:

- забарона на лоўлю шчупака звычайнага надыходзіць з 9 сакавіка да 25 красавіка ўключна;
- лоўля судака забаронена з 15 сакавіка па 30 траўня;
- лоўля сома звычайнага забаронена з 31 траўня па 1 ліпеня ўключна.

Грамадзяне, затрыманыя ў рыбалоўных угоддзях у перыяд забароны з асобінамі шчупака, будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры ад 20 да 50 базавых велічынь, а шкода за вылаўленую рыбу разлічваецца ў 3-хкратным памеры або 1 млн. 620 тысяч за адну асобіну шчупака, плюс вага кожнай асобіны. У выпадку, калі сума нанесенай шкоды будзе перавышаць 100 базавых велічынь, у дачыненні да парушальніка завядуць крымінальную справу па арт. 281 КК РБ.

Ніякіх прадаўжэнняў лоўлі шчупака ў бягучым годзе няма, забарона пачынаецца з 9 сакавіка, таму ўсім рыбаловам неабходна карыстацца законам, а не чуткамі аб працягу тэрміну лоўлі шчупака.

Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі ў перыяд наступу вясновых забаронаў і абмежаванняў дзейнічаюць у поўным аб'ёме і праца за іх выкананнем толькі ўзмацняецца.

Таму, супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі звяртаюцца да рыбаловаў-аматараў з просьбай не спакушаць свой лёс і не парушаць Правілы рыбалоўства, гэтак жа рыбаловам неабходна звяртаць увагу на лядовае пакрыццё вадаёмаў. У сувязі з наступіўшай працяглай адлігай, лёд на многіх вадаёмах становіцца таннейшым, асабліва, на праточных азёрах, і невыкананне мер бяспекі можа прывесці да трагедыі.




Маюць выпадкі заезду рыбакоў на ледзяное пакрыва вадаёмаў на механічных транспартных сродках, што катэгарычна забаронена Правіламі рыбалоўства і цягне штраф у памеры да 20 базавых велічынь, але ў першую чаргу заезд на ледзяное пакрыва возера можа пацягнуць гібель людзей.

Вельмі часта пасля рыбалкі на лёдзе застаецца шмат смецця, пустых бутэлек, паперы, пачкаў ад цыгарэт, недакуркаў ад цыгарэт, усё гэта ёсць нішто іншае як, забруджванне лядовага пакрыва і цягне штраф у памеры да 20 базавых велічынь. Толькі за перыяд з 16 па 22 лютага 2015 года супрацоўнікамі межраённай інспекцыі складзена 3 адміністрацыйныя пратаколы за забруджванне лёду і больш за 10 грамадзян папярэджаны. Паважаныя аматары падлёднай рыбалкі, будзьце, калі ласка, гаспадарамі не толькі ў сябе дома, але і знаходзячыся на прыродзе, захоўвайце чысціню нашых прыгожых вадаёмаў, лясоў.

**Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70 або моб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49**.



# Дарагі атрымаўся алень

**З набліжэннем вясны надвор'е становіцца ўсё цяплей, невялікія замаразкі змяняюцца працяглымі адлігамі, прырода прачынаецца ад зімовага сну.**

**Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Для рыбаловаў-аматараў наступаюць добрыя дні, рыба становіцца больш актыўнай, пачынае ўзмоцнена харчавацца і клёў значна паляпшаецца. У новым годзе згодна Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства лоўля шчупака дазволена да 8 сакавіка ўключна, а затым да 28 красавіка надыходзіць забарона на яго лоўлю ўсімі спосабамі і сродкамі, і гэта неабходна ведаць рыбаловам. Нягледзячы на зіму, працы ў супрацоўнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету менш не становіцца. Рознага роду парушальнікі працягваюць рабіць сваю чорную справу і іх не спыняюць ні вялізныя штрафы, ні нават магчымае пазбаўленне волі, у такіх людзей інстынкт самазахавання згублены цалкам.

Так, 18 лютага 2015 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі затрыманыя «чорныя лесарубы», двое жыхароў Глыбоцкага раёна. Мужчыны, маючы ва ўласнасці грузавы аўтамабіль, выязджалі ў глухія месцы, нарыхтоўвалі лес на дровы, не маючы ніякіх дазваленчых дакументаў, а затым дровы прадавалі грамадзянам, маючы нядрэнны прыбытак. Парушальнікі прыродаахоўнага заканадаўства прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, штраф у памеры 900 тысяч кожнаму і пакрыццё прычыненай прыродзе шкоды ў памеры 2 млн. рублёў.

21 лютага паблізу г. Паставы інспектарамі на месцы ўчынення парушэння затрыманы жыхар г. Паставы, які выкраў 13 м$^3$ дзелавой і паліўнай драўніны. Матэрыялы ў дачыненні да парушальніка накіраваныя ў Пастаўскі РАУС для вырашэння пытання аб узбуджэнні крымінальнай справы па 4.1 арт.205 КК РБ.

18 лютага 2015 года супрацоўнікамі Пастаўскага РАУС і міжраённай інспекцыі ў дваровых пабудовах жыхара Пастаўскага раёна знойдзеныя 2 тушы аленя высакароднага, паляванне на якога ў дадзены перыяд забароненае, шкода, прычыненая прыродзе, склала 600 базавых велічынь або 108 млн. рублёў. Мяса аленяў і незарэгістраваная стрэльба канфіскаваныя, Пастаўскім РАУС вырашаецца пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па СТ.282 КК РБ (незаконнае паляванне).

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету просіць усіх грамадзян паведамляць пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства на тэлефоны «гарачай лініі» кругласутачна: 8-02156-2-86-70, 2-80-30, моб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# Літаратурная вечарына памяці Рыгора Барадуліна

**Зміцер Лупач**

У чытальнай зале Шаркаўшчынскай бібліятэкі 24 лютага адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

Яе арганізавалі і правялі культурна-асветніцкі Цэнтр імя Язэпа Драздовіча, які ўзначальвае Ада Райчонак, і супрацоўнікі Шаркаўшчынскай раённай бібліятэкі.

Мерапрыемства атрымалася вельмі цікавым, прагучалі вершы Рыгора Барадуліна, песні, словы да якіх ён напісаў, успаміны людзей, хто яго ведаў асабіста. Падрабязней чытайце ў наступным нумары.


Ада Райчонак



# Будзе праводзіцца жорсткі кантроль за выкананнем цеплавога рэжыму

**Ацяпляльны сезон у разгары, але тэмпература вонкавага паветра амаль увесь час трымаецца дадатнай. За мінулы час ад пачатку ацяпляльнага зімовага перыяду вялікіх парушэнняў у цеплазабеспячэнні аб'ектаў спажыўцоў не было. Хоць маюцца некаторыя недахопы ў цеплазабеспячэнні, не заўсёды вытрымліваецца цеплавы рэжым згодна тэмпературнага графіка. Аднак расслабляцца нельга.**

■ **А. Ю. Рацьковіч,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА*

Спажыўцам цеплавой энергіі і энергазабеспячальным арганізацыям якія маюць на балансе цеплавыя сеткі, неабходна праводзіць рэгулярна агляды стану цеплавой ізаляцыі вонкавых цеплавых сетак надземнай пракладкі, пры неабходнасці праводзіць бягучыя рамонты. Асаблівую ўвагу надаваць недапушчэнню затаплення талымі водамі цеплавых камер і каналаў цеплавых сетак падземнай пракладкі. Нядбайнае стаўленне да гэтай праблемы можа прывесці да звышнарматыўных страт цеплавой энергіі, разбурэння цеплавой ізаляцыі, страты яе цеплаізаляцыйных уласцівасцяў, і як наступства – падвышаную карозію трубаправодаў і дачасны выхад іх з эксплуатацыі.

Таму неабходна ўжо зараз прыступіць да распрацоўкі арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да наступнага ацяпляльнага сезона, улічваючы ўсе негатыўныя моманты ў праходжанні гэтага ацяпляльнага перыяду.

У цяперашні час вельмі актуальныя пытанні эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў.

Абласная аператыўная група па аптымізацыі цеплазабеспячэння і эканомнага выкарыстання паліва і энергіі на перыяд з дадатнымі тэмпературамі вонкавага паветра прыняла рашэнне, згодна якога энергазабеспячальнымі арганізацыямі і спажыўцамі цеплавой энергіі, неабходна праводзіць наступныя мерапрыемствы:

■ пры тэмпературы вонкавага паветра – $8^{0}$С і вышэй ацяпленне аб'ектаў праводзіць у рэжыме «прапальвання»;

■ пры тэмпературы вонкавага паветра – $10^{0}$С і вышэй выкарыстоўваць для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння мясцовыя віды паліва;

■ тэмпература ў адміністрацыйных і грамадскіх будынках у выхадныя, святочныя дні і начны час не павінны быць вышэй за $12^{0}$С;

■ у перыяд дадатных тэмператур вонкавага паветра, ацяпленне лесвічных пляцовак жылых дамоў, грамадскіх, адміністрацыйных будынкаў – адключыць;

■ забяспечыць жорсткі кантроль за працай вонкавага і офіснага асвячэння, не дапушчаючы яго ўключэння ў светлы час сутак;

■ не дапускаць перапальвання будынкаў.

Пры правядзенні планавых абследаванняў энергазабеспячальных арганізацый і спажыўцоў цеплавой энергіі, энергаінспекцыі філіяла Энерганагляд РУП «Віцебскэнерга», у перыяд праходжання ацяпляльнага сезона будзе праводзіцца жорсткі кантроль за выкананнем рашэнняў аператыўных груп аблвыканкама і райвыканкама.






# Простыя сакрэты хатняй эканоміі электрычнай энергіі

**Эканомія электрычнай энергіі - гэта не адмова ад камфорту, а забеспячэнне неабходных умоў пражывання шляхам рацыянальнага выкарыстання наяўнага электрычнага абсталявання.**

■ **Ішуцін А.Н.**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду»*

Вось некалькі простых парадаў, якія дадуць магчымасць зэканоміць электрычную энергію ў вашым доме.

■ Адным з асноўных спажыўцоў электрычнай энергіі ў кватэрах у асеннезімовы перыяд з'яўляюцца звычайныя лямпы напальвання. Пры выкарыстанні пяці 100 Вт лямпаў цягам 5 гадзін у суткі расход электрычнай энергіі за месяц складзе 75 кВт·г, а за 6 месяцаў 450 кВт·г. Калі замяніць лямпы напальвання на энергазберагальныя лямпы расход электрычнай энергіі ў сярэднім скароціцца ў 7 разоў і складзе 10,7 кВт·г у месяц замест 75 кВт·г.

■ Электрычныя пліты, пральныя і посудамыйныя машыны, кампутары, хатнія кінатэатры і іншая бытавая тэхніка расходуе электрычную энергію ў рэжыме чакання. Адзін прыбор у рэжыме чакання спажывае ў сярэднім 15 Вт у гадзіну. За месяц спажыванне складзе 5,4 кВт·г. Калі ў хаце такіх прыбораў 6, то выдатак электрычнай энергіі за год складзе 390 кВт·г.

■ Пры кіпячэнні вады ў электрачайнік стараюцца набіраць вады столькі, колькі вам неабходна на дадзены момант. Бо пры павелічэнні патрэбнай колькасці вады на 20%, час яе кіпячэння павялічваецца на палову.

■ Своечасова чысціце накіп з награвальных элементаў, бо з-за гэтага павялічваецца час кіпячэння.

■ Зарадная прылада для мабільнага тэлефона, пакінутая падлучанай да сеткі пры адсутнасці тэлефона спажывае 95% энергіі, у той час як усяго 5% расходуецца непасрэдна пры яго зарадцы.

■ Пры гатаванні ежы на электрычнай пліце сачыце за тым, каб дыяметр камфоркі не перавышаў дыяметр дна посуду. Гэта простае правіла засцеражэ камфорку ад паломкі, посуд ад перагравання, а электраэнергію ад непатрэбнага перарасходу.

■ Сучасныя электрапрыборы маюць маркіроўку ўзроўню энергаспажывання. Сістэма энергетычнай маркіроўкі ўключае ў сябе 7 класаў. Пры набыцці новай бытавой тэхнікі звяртайце ўвагу на клас энергаэфектыўнасці. Больш высокі клас (А +, А ці У) азначае, што расход электраэнергіі будзе меншы ў параўнанні з такімі ж прыборамі больш нізкага класа (З, D, E, F, G).

Спадзяемся, што такія няхітрыя парады дапамогуць вам зэканоміць не толькі кВт, але і сямейны бюджэт.

# Захавайце сваю маёмасць



**У 2014 годзе агульная колькасць зарэгістраваных злачынстваў у г. Глыбокае і раёне ў параўнанні з 2013 годам знізілася з 329 да 278.**

■ **І.В. Рыпінскі,** *выконваючы абавязкі начальніка ААПП Глыбоцкага РАУС*

Праведзеная супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС прафілактычная праца спрыяла значнаму зніжэнню колькасці зарэгістраваных крадзяжоў са 160 у 2013 годзе да 126 у 2014 годзе.

Найбольшая колькасць крадзяжоў учыняецца з жылля грамадзян – 58 (2013 – 77). Звязана гэта, у асноўным, з бестурботным стаўленнем гаспадароў да сваёй маёмасці (непрыняцце элементарных мер засцярогі, пакіданне незачыненых уваходных дзвярэй, пакіданне без нагляду асабістых рэчаў, мабільных тэлефонаў, ужыванне значнай колькасці алкаголю, што паслабляе кантроль за паводзінамі, даверлівае стаўленне да незнаёмых грамадзян і.г д.).

У мэтах захавання сваёй маёмасці пераканаўча просім: пры пакіданні на працяглы перыяд часу свайго жылля (у тым ліку дач пасля вясновa-восеньскіх прац і адпачынку), каштоўныя рэчы везці з сабой, альбо пакідаць пад наглядам суседзяў, падчас адпачынку ў забаўляльных установах не пакідаць асабістыя рэчы, мабільныя тэлефоны без нагляду і не перадаваць незнаёмым людзям, ні ў якім разе не ўпускаць у жыллё незнаёмых, падазроных грамадзян. Лепшы спосаб зберагчы сваю маёмасць – заключыць дамову з Глыбоцкім аддзелам Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь і ўсталяваць ахоўную сігналізацыю.

**Калі Вы сталі ахвярай злачыннага замаху, альбо валодаеце інфармацыяй аб грамадзянах, вядучых злачынны лад жыцця – паведаміце па тэлефонах: аператыўна-дзяжурная служба Глыбоцкага РАУС - 102, 2-27-02, 597 21 74 МТС; 314 89 02 Велком.**

# Не парушайце антыалкагольнага заканадаўства!

■ **І.В. Рыпінскі,**
*выконваючы абавязкі начальніка ААПП Глыбоцкага РАУС*

Супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС сумесна з супрацоўнікамі Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь у 2014 годзе за парушэнне антыалкагольнага заканадаўства складзена 42 адміністрацыйных пратаколы: 31 - за парушэнне арт. 12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь, 1 - за парушэнне ч. 1 арт. 12.25 КоАП Рэспублікі Беларусь, 1 - за парушэнне ч. 2 арт. 12.27 КоАП Рэспублікі Беларусь, 9 - за парушэнне ч. 4 арт. 12.27 КоАП Рэспублікі Беларусь, з незаконнага абароту канфіскавана - 21 731.3 літра фальсіфікаваных спіртных напояў, самагону і самагоннай брагі (5 134.6 - самагону і самагоннай брагі, 16 596.7 - фальсіфікаваных спіртных напояў) і 10 самагонных апаратаў.

У 2014 годзе да адміністрацыйнай адказнасці за распіццё алкагольных, слабаалкагольных напояў ці піва, або з'яўленне ў грамадскім месцы ў п'яным выглядзе прыцягнута 1413 грамадзян (з якіх, на працоўным месцы - 141, за распіццё піва - 202), за дробнае хуліганства - 173 (учыненых у стане алкагольнага ап'янення - 143), за ўчыненне правапарушэнняў у сферы сямейна-бытавых адносін па арт. 9.1 - 117 (учыненых у стане алкагольнага ап'янення - 114), за кіраванне транспартным сродкам асобай, якая знаходзіцца ў стане ап'янення, перадачу кіравання транспартным сродкам такой асобе або адмова ад праходжання праверкі (агляду) - 160.

**Калі Вам што-небудзь вядома пра факты незаконнага вырабу і рэалізацыі алкагольнай прадукцыі - паведаміце па тэлефонах: АДС Глыбоцкага РАУС - 102, 2-27-02, 597 21 74 МТС; 314 89 02 Велком або УУС Віцебскага аблвыканкама-(8-0212) 23-81-73,511 22 16 МТС; 314 08 63 Велком.**



